№ 10(133)

# ПАХОДНЯ

Грамадска-палітычная газета

Чэрвень 2012 г.

*Чуткі*

## НАШЫМ ДЭПУТАТАМ У "ПАЛАЦЕ" БУДЗЕ АЛЯКСАНДР АГЕЕЎ?



Журналістам "Паходні" стала вядома інфармацыя, хто будзе верагодным кандыдатам ад улады на выбарах у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу восенню гэтага года па Шклоўскай выбарчай акрузе. Як пацвердзілі некалькі незалежных крыніц, мяркуецца, што гэтым кандыдатам будзе намеснік старшыні Камітэта дзяржкантролю Аляксандр Агееў.

Нагадаю, што Аляксандр Віктаравіч раней не адзін год адпрацаваў у нашым раёне, у тым ліку на працягу шэрагу гадоў ён быў старшынёй Бялыніцкага райвыканкама ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. Са сваёй пасады Агееў быў звольнены за правалы ў працы пасля гучнага скандала і канфлікта з тагачасным старшынёй Магілёўскага аблвыканкама Міхаілам Дражыным. Усе падрабязнасці звальнення Аляксандра Віктаравіча неаднаразова паказала Магілёўскае тэлебачанне. Без працы Аляксандр Агееў прабыў не доўга. Ужо праз пару месяцаў, пасля звароту за дапамогай да Рыгоравіча, ён быў прызначаны галоўным інспектарам адміністрацыі прэзідэнта па Брэсцкай вобласці. Пасля Аляксандр Агееў пэўны час працаваў міністрам энергетыкі краіны.

У палітычнай лаяльнасці і асабістай адданасці Лукашэнка Агеяў выдатна зарэкамендаваў сябе яшчэ ў дапрэзідэнцкія часы. Былшы старшынёй Бялыніцкага райвыканкама, Агееў актыўна ўдзельнічаў у кампаніі дэпутата Лукашэнка, якая ўвайшла ў гісторыю як «барацьба з бялыніцкай і шклоўскай мафіяй». У Бялынічах галоўнай мэтай маладых антыкарупцыянераў стаў мясцовы міліцэйскі начальнік Ігар Шчарбакоў. Газеты тады пратрубілі на ўсю краіну пра шыкоўную дачу Шчарбакова з выдатным возерам і мармуровымі прыступкамі. Зрэшты, калі Шчарбакоў стаў судзіцца, аказалася, што дача самая звычайная, возера дэградавала да саджалкі, а мармуровыя прыступкі абярнуліся банальным ганкам. Пройдучы ўсе судовыя інстанцыі, Шчарбакоў выйграў суд пра аднаўленне на працы, але СМІ гэта ўжо не цікавіла — з антыкарупцыянера Лукашэнка ператварыўся ў прэзідэнта. *Агееву* ж заставалася чакаць сваёй гадзіны.

Запомніўся Аляксандр Віктаравіч бялынічанам і сваім канфліктам з тагачасным старшынёй калгаса імя Фрунзэ Міхаілам Аляксейчыкавым. У выніку перспектыўнага старшыню з калгаса выжылі, а пасля гэтага ў хуткім часеляснуў і сам калгас імя Фрунзе, які да гэтага быў адной з лепшых гаспадарак Бялыніцкага раёна.

Неабходна адзначыць, што Аляксандр Агееў ужо быў дэпутатам верхняй палаты беларускага "парламента" (Савета Рэспублікі) у 90-я гады, калі быў разагнаны законна выбраны Вярхоўны Савет і з лаяльных чыноўнікаў быў сфармаваны двухпалатны "Нацыянальны Сход". За сваю дзейнасць ён быў нават узнагароджаны Ганаровай граматай Нацыянальнага Сходу.

Па звестках журналістаў "Паходні", у якасці верагоднага кандыдата ў

*(Пачатак. Заканч. на стар. 2)*

## ЗАВАЛИТЬ СТРАНУ РЫБОЙ НЕ ПОЛУЧИТСЯ



Молния погубила 6 тонн малька форели в хозяйстве в Белыничском районе.

Чрезвычайное происшествие случилось в форелевом хозяйстве «Вабич» в деревне Вишово Белыничского района Могилевской области, сообщает БелаПАН.

Как сообщили корреспонденту агенства в правоохранительных органах, 11 июня, как предполагается, из-за разряда молнии произошло отключение компрессора по насыщению воды кислородом и насосов для перекачки воды в пяти открытых бассейнах. В результате этого погибло 6 тонн малька форели весом от 200 до 500 грамм. Сумма ущерба устанавливается.

Белыничский питомник — первый в масштабной программе разведения ценных пород рыб в Могилевской области. В этом году планировалось начать строительство еще и крытого помещения для выращивания форели мощностью 75 т в год. Пока же использовался летний вариант.

Строительство еще одного комплекса ведется в пойме реки Лахва в деревне Косичи Быховского района.

***Ирина Беганкина***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# СЯРЭДНЯЯ ШКОЛА №1 Г.П.БЯЛЫНІЧЫ БУДЗЕ НАСІЦЬ ІМЯ М.І.ПАШКОЎСКАГА

Згодна Палажэння аб дзяржаўнай рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання Бялыніцкі раённы выканаўчы камітэт прыняў рашэнне аб змяненні віда і перайменаванні гімназіі №1 райцэнтра ў сярэднюю школу №1 імя Мікалая Іванавіча Пашкоўскага.

Мікалай Іванавіч 12 гадоў з'яўляўся дырэктарам вышэйназванай вучэбнай установы, у 1995 годзе заняў пасаду загадчыка, а затым і начальніка аддзела адукацыі райвыканкама.

35 гадоў жыцця М.І.Пашкоўскі аддаў працы ў галіне адукацыі. Вялікую ўвагу ён надзяляў развіццю матэрыяльнай базы школ і пазашкольных устаноў, стварэнню ўмоў для пераходу на новы ўзровень атрымання адукацыі, дыферынцыяцыі навучання і выхавання, удасканаленню вучэбна-выхаваўчага працэсу і ажыццяўленню пазашкольнага ўпраўлення. Як вынік плённай дзейнасці, Мікалай Іванавіч меў шэраг ўзнагарод. Гэта, да прыкладу, Ганаровыя граматы ўпраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама, Граматы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і многія іншыя.

У гады кіравання М.І.Пашкоўскага аддзел адукацыі 11 гадоў прызнаваўся пераможцам абласнога агляду-конкурсу на лепшую арганізацыю работы сярод аддзелаў адукацыі райвыканкамаў.




Апроч таго, Мікалай Іванавіч з'яўляўся дэпутатам раённага Савета дэпутатаў, старшынёй раённай арганізацыі рэспубліканскага аб'яднання "Белая Русь", членам калегіі ўпраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама.

Год назад Мікалай Пашкоўскі пайшоў з жыцця.

***http://belynichi.gov.by/***

## НАШЫМ ДЭПУТАТАМ У "ПАЛАЦЕ" БУДЗЕ АЛЯКСАНДР АГЕЕЎ?




*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

дэпутаты Палаты прадстаўнікоў разглядалась таксама кандыдатура галоўнага інспектара па Магілёўскай вобласці Генадзя Лаўранкова, які ў свой час узначальваў Шклоўскі райвыканкам, аднак Генадзь Міхайлавіч на гэтую прапанову не пагадзіўся.

Што ж, Аляксандр Агееў заслужыў сабе права, атрымліваючы добрую пенсію, спакойна спаць у "палатцы" і атрымліваць яшчэ і выдатны заробак, хвалячы нашага "нязменнага" і "квітнеючую Беларусь". Пенсіянерам паўсюль у нас дарога, ну а маладыя няхай едуць на заробкі ў Расію. Ведаеце, мне зараз родная Беларусь усё больш пачынае нагадваць СССР позняга перыяду, калі краінай кіравалі старцы з палітбюро. Па ўсяму бачна, што да гэтага мы зноў і ідзём…

***Іван Барысаў***

## СПРАВКА "ПАХОДНІ"

### Агеев Александр Викторович

родился 31 января 1952 г. в д. Трилесино Горецкого района Могилевской области. В 1971 г. окончил Могилевский политехнический техникум. В 1971 г. работал техником-механиком Оршанского горпищеторга. В 1971—1973 гг. служба в Советской армии. В 1973 — ??? снова работал техником-механиком Оршанского горпищеторга. В 1979 г. окончил Белорусскую сельскохозяйственную академию по специальности инженер-механик. В 1979 — 1981 гг. старший инженер-контролер станции технического обслуживания, заместитель управляющего Белыничской райсельхозтехники Могилевского области. В 1981 — 1992 гг. инструктор орготдела Белыничского РК КПБ, председатель райсельхозхимии, заместитель председателя Белыничского агропромышленного объединения, заместитель начальника управления сельского хозяйства и продовольствия Белыничского райисполкома. С 1992 по 1999 г. председатель Белыничского райисполкома. В 1991— 1994 гг. депутат Белыничского районного Совета. В 1992 — 1994 гг. депутат Могилевского областного



***Александр Агеев***

Совета. С 1996 г. член Совета республики Национального собрания Республики Беларусь, заместитель председателя Постоянной комиссии по региональной политике. 27 апреля 2000 г. указом Президента назначен помощником Президента — главным инспектором по Брестской области 6 августа 2004 г. указом президента № 384 назначен Министром энергетики Республики Беларусь (занял место Эдуарда Товпенца), освободив его от должности помощника Президента Республики Беларусь - главного инспектора по Брестской области. С мая 2006 г. назначен на должность заместителя Председателя Комитета государственного контроля Республики Беларусь. Увлечения: волейбол, борьба.

# ВЛАДИМИР КРАВЧЕНКО: “В ИВС БЕЛЫНИЧСКОГО РАЙОНА УСЛОВИЯ СОДЕРЖАНИЯ НЕ СООТВЕТСТВУЕТ НИ ГИГИЕНИЧЕСКИМ, НИ ПОЖАРНЫМ, НИКАКИМ ТРЕБОВАНИЯМ”



*Владимир Кравченко*

**Так охарактеризовал положение дел в изоляторе временного содержания Белыничского РОВД директор Могилёвского правозащитного центра Владимир Кравченко в интервью информационному агенству БелаПАН.**

Главной целью деятельности ОО «Могилевский правозащитный центр» (МПЦ) в настоящее время является борьба с чиновничьим произволом и коррупцией, заявил БелаПАН директор центра Владимир Кравченко.

Вновь переизбранный на должность директора МПЦ 5 июня, Кравченко называет одним из достижений организации то, что ее не удалось закрыть властям. «Хотя тенденция к этому наблюдается. В стране, где растет коррупция, общественного контроля власти не хотят иметь и не позволяют», — заявляет правозащитник.

В качестве одного из примеров чиновничьего произвола он называет разрушение и разворовывание старых зданий в Могилеве по улице Лазаренко в исторической части города. «Они уже более пяти лет стоят, долгое время не могли определить, кто будет их дальнейшую судьбу решать. Восемь пожаров там случилось, сняли двери металлические, раковины, газовые счетчики. Однако ни одного уголовного дела по факту краж и хищений не завели. Я считаю, что виной этому круговая порука чиновников», — сказал Кравченко.

Вместе с тем, как заявил руководитель организации, за прошедший год центру удалось заставить органы власти признать ненормальной ситуацию в изоляторе временного содержания в Белыничах. «В ИВС Белыничского района условия содержания не соответствует ни гигиеническим, ни пожарным, никаким требованиям. Но подобное можно говорить не только про Белыничи, но и про многие другие изоляторы», — утверждает Владимир Кравченко.

По его словам, за прошедший период организация занималась различными направлениями деятельности: участвовала в уголовных и административных процессах, вела просветительскую работу в СМИ. «Еженедельно к нам обращаются порядка семи-восьми человек со своими проблемами», — отметил правозащитник. Вместе с тем, по его мнению, чем больше произвола в стране, тем население более запугано. «Люди даже боятся отстаивать свои права», — констатировал директор ОО «Могилевский правозащитный центр».




Необходимо отметить, что за последние годы сотрудники Могилёвского правозащитного центра смогли оказать необходимую помощь в решении возникших проблем правового характера целому ряду жителей Белыничского района. Жители нашего района, которые имеют потребность в оказании юридической помощи или консультации, могут связаться с сотрудниками МПЦ по телефону 8-0296-31 66 10 или написать на адрес электронной почты: kravshenkomg@mail.ru .

***Сергей Семенович***

# МОГИЛЁВСКИЕ ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ ЧАЩЕ ВСЕГО ПОДДЕЛЫВАЮТ ДОЛЛАРЫ И РОССИЙСКИЕ РУБЛИ

В Могилёве участились попытки сбыта поддельных денежных купюр, сообщает телерадиокомпания «Могилёв». С начала года сотрудниками правоохранительных органов в Могилёвской области было зафиксировано 57 попыток сбыта поддельных денег, что на 20% больше, чем за аналогичный период прошлого года. Чаще всего фальшивомонетчики подделывают российские рубли и доллары США.

Как правило, продавцы фальшивых денег уверяют, что приобрели их в российских банках. Однако опыт милиции показывает, что белорусы и сами умеют печатать деньги дома. Так, недавно сотрудниками правоохранительных органов был задержан безработный житель Глуска, который напечатал дома 6 купюр номиналом 50 000 белорусских рублей.

# НАРКОТИКИ НЕ ПРОЙДУТ

Новый канал поставки наркотиков из Москвы в Могилев перекрыли могилевские милиционеры. Задержан могилевчанин, который из российской столицы привез в областной центр амфетамин и марихуану.

Наркотик был расфасован по пакетам, упакован в пачку из-под влажной туалетной бумаги и спрятан в джипе. Водителя автомобиля задержали. Расследуется уголовное дело. Если вину хозяина наркотиков докажут, за хранение ему грозит до 5 лет лишения свободы.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# БЫВШИЙ СЕКРЕТАРЬ БЕЛЫНИЧСКОГО РАЙКОМА КПБ ПРОТИВ ОСВОБОЖДЕНИЯ ПОЛИТЗАКЛЮЧЁННЫХ?

«Не нужно вопросы амнистии смешивать с политикой», - заявил заместитель председателя комиссии по правам человека «палаты представителей» Анатолий Глаз, который в начале 90-х работал первым секретарём Белыничского райкома партии.

«По моему глубокому убеждению, если соответствующие статьи, по которым они осуждены, будут обозначены в законе об амнистии, то независимо от того - оппозиционер он или не оппозиционер, он, естественно, выйдет на свободу», - сообщил «парламентарий» агентству «Интерфакс-Запад».

По мнению А.Глаза, «абсолютно необоснованно некоторые рассчитывают, что якобы мы под этот «соус» подмешаем тех, кто сидит якобы по политическим мотивам». «Это абсолютно несоизмеримые вещи. Закон об амнистии будет определять людей, которые получат досрочное освобождение по конкретным статьям Уголовного кодекса, а не по политическим пристрастиям», - подчеркнул замглавы «парламентской» комиссии.



*Анатолий Глаз*

А.Глаз сказал, что полностью разделяет мнение Лукашенко о том, что «люди, совершившие неопасные для общества правонарушения, не должны сидеть в тюрьме и кормиться за наш счет». «Депутат» считает беспочвенными утверждения о том, что амнистии способствуют росту преступности. «Рецидив преступности среди освобожденных по амнистии сохраняется на одном уровне», - сказал А.Глаз.

Между тем, по его словам, «амнистия дает возможность большой группе людей выйти на свободу и оценить этот гуманный жест государства». «Это очень правильно, с учетом того, что пока у нас, мягко говоря, не совсем сбалансировано уголовное законодательство. Есть много нестыковок, которое дают возможность суду назначить наказание, не соответствующее опасности совершенного преступления: или меньшее, или большее. К сожалению, зачастую - большее», - сказал замглавы комиссии «палаты представителей».

***По материалам “Интерфакс”***

## НА 14 ТЫСЯЧАЎ ЧАЛАВЕК СКАРАЧАЕЦЦА НАБОР У ВНУ

Сёлета ў ВНУ плянуецца прыняць на 14 тысяч чалавек менш, чым летась. Ня змогуць удзельнічаць у конкурсе абітурыенты, якія атрымалі за тэставаньне адзнакі, ніжэйшыя за сем балаў.

Пра гэта паведаміў міністар адукацыі Сяргей Маскевіч 11 чэрвеня на прэс-канфэрэнцыі ў Менску, перадае БелаПАН. Сёлетні плян набору прадугледжвае 91,6 тысячы першакурсьнікаў, што на 14 тысяч менш, чым у 2011-м. Паводле Сяргея Маскевіча, гэта зьвязана са зьмяншэньнем колькасьці выпускнікоў школ.

Як адзначыў міністар, асноўнае наваўвядзеньне ўступнай кампаніі гэтага году — парог для здачы выпрабаваньняў цэнтралізаванага тэставаньня ў 7 балаў. Абітурыенты, у якіх адзнака ніжэйшая за гэтую, ня змогуць удзельнічаць ва ўступнай кампаніі ў ВНУ.

У гэтым годзе на 20% скарочаны прыём на навучаньне за кошт сродкаў бюджэту на эканамічныя спэцыяльнасьці, на 15% — на юрыдычныя, на 4% — на гуманітарныя. Разам з тым удвая павялічаны прыём на спэцыяльнасьці, зьвязаныя з нанатэхналёгіямі, на 11% — з IT-тэхналёгіямі.

Усяго студэнтаў будуць прымаць 54 вышэйшыя навучальныя ўстановы: 45 дзяржаўных і дзевяць прыватных.

***Радыё Свабода***




## ЕЗДИТЬ НАДО АККУРАТНО

Эту старую истину в очередной раз подтвердило ДТП, произошедшее с жителем Белыничского района.

9 июня в Могилевском районе в 11 часов на автодороге Минск – Могилев вблизи д. Княжицы произошло столкновение двигавшихся в попутном направлении автомашин «Фольксваген Туран», «Форд Гэлэкси» и «Мазда MPV». Водитель автомашины «Фольксваген», 45-летний житель г.п. Белыничи, двигаясь по автодороге Минск-Могилев, вблизи д. Княжицы при перестроении столкнулся с двигавшейся в попутном направлении автомашиной «Форд» под управлением 54-летнего жителя г. Минска, который выехал на левую полосу движения попутного направления, где столкнулся с автомашиной «Мазда» под управлением 34-летнего жителя г. Климовичи. В результате ДТП получила телесные повреждения 54-летняя пассажир автомашины «Мазда».

# ЗАБЫТАЯ БІТВА

## ГАЛОЎЧЫНСКАЯ БІТВА – ВЯЛІКАЯ ПЕРАМОГА ЦІ НЕ?

Падчас Вялікай Паўночнай вайны 1700-1721 гг. швецкі кароль Карл XII улетку 1708 гады пачаў з Гародні паход на Ўсход. Швецкае войска 7 (18) чэрвеня без бою заняла Мінск, а 14 (25) чэрвеня перапраўлялася праз Бярэзіну. Далей поруч мястэчка Галоўчын (ці Головчин) на Магілёўшчыне 3 ліпеня адбылася бітва, у якой рускія былі пабіты і збеглі за Днепр. Тут Карл XII атрымаў сваю апошнюю вялікую перамогу. Але расійскія аўтары традыцыйна малююць гэту падзею пасрэдным боем. Таму словы швецкага гісторыка Яна Ліндгрэна пра тое, што «Гарадзенскі паход характарызуецца адным з самых буйных, ці нават самым буйным поспехам Карла XII» (маецца на ўвазе бітва пад Галоўчынам) могуць выклікаць у шматлікіх чытачоў здзіўленне і недавер.



**План бітвы шведаў з рускімі пад Галоўчынам**

Такім чынам, 3 (14) ліпеня 1708 гады поруч мястэчка Галоўчын, размешчаным у цяперашнім Бялыніцкім раёне Магілёўскай вобласці, кароль Карл XII атрымаў сваю апошнюю буйную перамогу на поле бітвы. Усе біёграфы швецкага караля, і ён сам таксама, аднадушна лічылі гэту бітву вяршыняй яго вайскаводніцкага мастацтва. Па словах швецкага гісторыка К. Лундблата, тут «у апошні раз узышла зорка шчасця Карла XII». Знакаміты французскі філосаф, гісторык і пісьменнік Вальтэр у сваёй кнізе, прысвечанай швецкаму каралю-ваяру, сказаў так: «З усіх бітваў, у якіх ён перамог, гэта была, напэўна, самая хвалебная, бо ў ёй ён апынуўся перад самай вялікай небяспекай і паказаў самае вялікае ўменне». (Гл. кнігу Вальтэра «Гісторыя Карла XII, караля швецкага» (1731 г.), выдадзеную на рускай мове ў 1900, 1901, 1909 гг.)

Але калі мы адкрыем 4-ы том Савецкай Гістарычнай Энцыклапедыі, выдадзены ў 1963 годзе, то ўбачым, што пасля артыкула «Головнин» ідзе артыкул «Голодед», «Галоўчын» адсутнічае. Затое артыкул «Лясная», прысвечаная разгрому абозу генерала Левенгаупта 28 верасня таго ж года, маецца ў 8-м томе «СИЭ» (1965 г.). Яе аб'ём – 40 радкоў, не лічачы карты.

«Ваенны энцыклапедычны слоўнік» (выданне 2001 г.) паведамляе ў маленькім артыкуле (12 радкоў), што ў Галоўчына рускія войскі (12 тысяч конніцы, 10 тысяч пяхоты, 4 тысячы казакоў), не мелі ні адзінага камандавання, ні выразнага ўзаемадзеяння (хоць яны самі вінаватыя, што не паклапаціліся пра гэта – А.Т.), падвергліся ўдару праўзыходных сіл шведаў (18 тысяч конніцы, 12 тысяч пяхоты) і адступілі. Выходзіць, што шведаў было больш на 4 тысячы чалавек.

Расійскі аўтар Н. Шэфаў піша ў кнізе «Бітвы Расіі» (Масква, 2002 г.), што ў гэтай бітве рускіх было 28 тысяч чалавек, шведаў – 30 тысяч. Ізноў-такі, лікавая перавага на баку шведаў, праўда, не на чатыры тысячы, а на дзве. Калі да таго дадаць выдатную вывучку швецкіх войскаў, іх велізарны баявы досвед і высокі маральны дух, становіцца зусім незразумелым, чаму гаворка ідзе «пра вяршыню майстэрства швецкага караля як вайскавода»?

Сакрэт просты. Насамрэч лікавая перавага была на баку рускіх, прытым вельмі значная, мінімум 10 тысяч салдатаў! Акрамя таго, яны займалі выгодную абаронча пазіцыю. Але, нягледзячы на гэта, атрымалі сур'ёзную паразу і збеглі, адкрыўшы шведам шлях на Магілёў і да Дняпра.

Каб усталяваць колькасць швецкіх войскаў у бітве 3 ліпеня, зробім найпросты разлік. Пасля Галоўчына кароль Карл 7 ліпеня заняў без бою Магілёў, адтуль выйшаў 5 жніўня ў кірунку да Смаленска. Не дойдучы 14 вёрст да яго, ён павярнуў на Старадуб і павольна рушыў ва Ўкраіну па маршруце Батурын – Ромны – Гадзяч – Вепрык – Палтава.

27 чэрвеня 1709 гады адбылася Палтаўская бітва. У ёй Карл XII выкарыстоўваў 8200 швецкіх пяхотнікаў і 7800 кавалерыстаў, а таксама Валашскі (г.зн. вугорскі) конны

*(Пачатак. Працяг на стар. 6)*

# ЗАБЫТАЯ БІТВА

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

полк (1000 чалавек). У аблогавых умацаваннях вакол Палтавы знаходзіліся 2,5 тысячы шведаў; па-за полем бітвы (на Ворскле) – 1800 швецкіх кавалерыстаў; у абозе 200 кавалерыстаў і 50 пяхотнікаў, у лазарэтах 2250 параненых і хворых. Усяго швецкіх салдатаў і афіцэраў, акруглена – 22.800 чалавек. Акрамя іх, пад Палтавай было 11 тысяч казакоў, якія далучыліся да шведаў ва ўкраінскіх землях, а таксама 6800 грамадзянскіх асобаў (службоўцы, конюхі, дзяншчыкі, працоўныя, жонкі і дзеці вайскоўцаў). Такі дэталёвы падлік П. Энглунда ў яго кнізе «Палтава: Аповяд пра згубу аднаго войска», выдадзенай у Маскве ў 1995 г.

Такім чынам, у швецкага караля было пры Палтаве меней 23 тысяч суайчыннікаў у пяхоце і кавалерыі. І гэта пасля таго, як генерал Левенгаупт прывёў да яго (12 кастрычніка 1708 г.) ад Лясной каля 6500 тысяч чалавек! Ніякіх іншых падмацаванняў швецкімі войскамі кароль з моманту выйсця ў паход з Гародні не атрымліваў. Такім чынам, за вылікам страт пры самім Галоўчыне забітымі, якія памерлі ад ран, сталымі інвалідамі (да 500 чалавек), а таксама невялікіх страт ад сутычак і хвароб са жніўня 1708 гады па ліпень 1709 (максімум 500 чалавек), у яго пры Галоўчыне было не больш за 18,5 тысяч кавалерыстаў і пяхотнікаў, але не 20, і ўжо ніяк не 30 тысяч.

І ў гэтым – галоўнае! Маючы значна менш сіл, чым супернік, кароль рашуча атакаваў рускіх, якія займалі выгодную ўмацаваную пазіцыю, разбіў іх і прымусіў уцякаць!

* * *

Дык што ж адбылося пры Галоўчыне? Рускае войска, пад агульным камандаваннем генерала-фельдмаршала графа Б.П. Шарэмецева, размясцілася ўздоўж левага багністага берага нешырокай ракі Бабіч (ці Вабіч), умацаваўшы свае пазіцыі рагаткамі і землянымі брустверамі. Яно зачыняла дарогі на Магілёў, Шклоў і Копысь. Лінія фронта расцягнулася на 10 кіламетраў. Інтэрвалы паміж яго цэнтрам і флангамі складалі да тысячы метраў. У гэтых месцах знаходзіліся найболей гразкія балоты.

У цэнтры стаялі пяхотная дывізія Шэрэмецьева (5 ці 6 тысяч чалавек) і конная брыгада Меншыкава (4 тысячы), на правым флангу – пяхотныя дывізіі генералаў Алларта і Флюка (ад 10 да 12 тысяч), на левым – пяхотная дывізія генерала князя А.І. Рэпніна (5 ці 6 тысяч) і 10 драгунскіх палкоў фельдмаршала-лейтэнанта Г. Гольца (8 тысяч конніцы). Ззаду рускіх войскаў знаходзіўся лес. Лявей Гольца, у вярхоўе ракі Бабіч, знаходзіўся конны атрад казакоў князя М.М. Галіцына (4 тысячы). У агульнай складанасці рускіх войскаў было, прынамсі, 36 тысяч, а не 26.

Рускія аўтары заўсёды імкнуліся пераменшыць колькасць рускіх войскаў і павялічыць лік шведаў, каб карціна перамогі суперніка выглядала меней уражлівай. Тым часам Вальтэр, са спасылкай на швецкія дакументы, паказаў лік рускіх у 39 тысяч! Гэта вельмі падобна на праўду. Нагадаю, што ў Палтаўскай бітве з рускага боку ўдзельнічалі 42 тысячы салдатаў і афіцэраў.

У ноч са 2 на 3 ліпеня ішоў моцны дождж, які змяніўся смугой. Пад прыкрыццём цемры і непагадзі швецкія салдаты хутка навялі пантонны мост праз нешырокую раку да багністага ўчастку процілеглага берага, дзе рускія не чакалі небяспекі. Тут знаходзілася дывізія князя Рэпніна. У тры гадзіны ночы пяць пяхотных палкоў на чале з каралём Карлам пад прыкрыццём артылерыйскага агню накіраваліся праз мост у напад. Фарсіраваўшы балота, яны адразалі дывізію Рэпніна ад кавалерыі Гольца. Бой праходзіў у густых прыбярэжных зарасніках, не якія дазвалялі ўвесці ў дзеянне конніцу. Дывізія Рэпніна пасля трох гадзін бою кінулася ў лес, пакінуўшы шведам 10 гармат. Да шчасця для рускіх, багністая мясцовасць абцяжарыла шведам праслед. У гэтым бою Карл XII ледзь не загінуў. Яго конь ugраз у балоце, швецкія салдаты насілу выцягнулі караля з багны.

Услед за пяхотай па масце пераправілася швецкая кавалерыя і атакавала размешчаныя правей (калі глядзець ад ракі) конныя палкі Гольца. Не вытрымаўшы націску, драгуны Гольца таксама пусціліся наўцёкі па дарозе на Магілёў. Пры гэтым найвялікія страты панеслі Белазерскі, Траецкі і Санкт-Пецярбургскі палкі. Войскі рускага цэнтра, асцерагаючыся флангавага ўдару шведаў, паспешна адступілі да Шклова, войскі

*(Заканчэнне на стар.7)*



***Помнік на месцы бітвы паблізу мястэчка Галоўчын***

# РЫМСКА-КАТАЛІЦКАЯ ПАРАФІЯ Ў БЯЛЫНІЧАХ

Каталіцкі касцёл на бялыніцкай зямлі існаваў ужо ў 1579 г. — княгіня Анастасія Мсціслаўская ў даравальнай грамаце Бялынічей і Цяцерына троцкаму ваяводу Стэфану Збаражскаму ўзгадвае „костел закону римского".

Леў Сапега, канцлер Вялікага Княства Літоўскага, заснаваў у Бялынічах кляштар кармелітаў у 1624 г.

З 1634 г. вядомы абраз Маці Божай у нававыбудаваным драўляным касцёле. Ці быў ён ад пачатку цудоўным альбо вельмі старадаўнім? - але ўжо ў 1641 г. ягоная копія знаходзілася (і знаходзіцца да сённяшняга дня) у Варшаве, на Лешне.

Падчас расейскага наступлення 1654 г. Абраз быў вывезены Сапегам да ягонага замку ў Ляховічах. Толькі ў 1761 г. вярнуўся у Бялынічы, ў нававыбудаваны каменны касцёл, дзе з папскага дазволу на галавы Маці Божай і Езуса кароны ўклаў 20 верасня 1761 г. (паводле старога стылю) смаленскі біскуп Юры Гыльзен. Звярніце, калі ласка, ўвагу на форму гэтых каронаў – гэта вялікакняжацкія шапкі!

Пасля раздзелаў Рэчы Паспалітай (а ў 1772 годзе Бялынічы апынуліся на самім кардоне, адкуль і назовы навакольных вёсак – Кардон, Мяжонка, Рубеж і інш.) горад быў пазбаўлены права на самакіраванне. Нейкія настойлівыя мяшчане, што накіроўваліся нават да Пецярбурга з прашэннем вярнуць ім гарадзскія правы, былі ў 1828 г. сасланы ў Сібір! Нават выява гэрбу была згублена і не знайшлася да сённяшняга дня – усяго некалькі такіх гаротных гарадоў у Беларусі). Але дзякуючы таму ў новым гэрбе знаходзіцца Маці Божая Бялыніцкая.

12 красаваіка 1876г. царскія ўлады пасля 40-гадовай прапагандыстскай падрыхтоўкі забралі касцёл у католікаў і перадалі яго праваслаўным.

У нашым краі акрамя засценковай „падруцкай" (па рацэ Друцці – ад Друцка праз Круглае, Бялынічы, Быхаў да Рагачова) шляхты жылі вялікія магнаты – князі Друцкія і Агінскія. Гэтым апошнім пасля Сапегаў належылі Бялынічы. Міхал-Кляофас Агінскі свой паланез „Развітанне з айчынай" напісаў менавіта пра бялыніцкі край!



***Бялыніцкі абраз Маці Божай***

Страціўшы бялыніцкі касцёл, каталікі пабудавалі ў 1903 г. новы, у аддаленых 10 км. Свацілавічах. Але пасля выгнання адтуль апошняга ксяндза ў 1928 г. савецкая улада забрала і гэты храм. У 1960-тыя гады быў узарваны вялічыны касцёл і кляштар у Бялынічах.

У 1993 г. нашая парафія адрадзілася. Да нас ужо прыбываюць пілігрымы, а з восенні 2008 г. маем уласнага ксяндза.

## ЗАБЫТАЯ БІТВА

*(Заканч. Пачатак на стар. 5-6)*

Алларта і Флюка – да Копысі.

У бітве пры Галоўчыне рускія страцілі, па іх дадзеных, не больш за 1400 чалавек забітымі і параненымі, тады як па швецкіх – 2700, і яшчэ 630 – палоннымі.

Страты шведаў цар Пётр моцна перабольшыў. У лісце генерал-адміралу Апраксіну ён паведаміў, быццам бы загінулі генерал, два палкоўніка, каля сотні афіцэраў, тысяча радавых, а параненых было яшчэ больш. Але Энглунд, на аснове рапарта галоўнага лекара швецкага войска, прыводзіць у сваёй кнізе дакладныя лічбы: 255 забітых, 1219 параненых. Частка параненых пазней памерла.

***Анатоль Тарас,***
***BELHISTORY.COM***

## ЧЕТВЕРО НЕЛЕГАЛОВ ИЗ АФГАНИСТАНА ЗАДЕРЖАНЫ В МОГИЛЁВЕ

Четверо нелегалов из Афганистана задержаны в Беларуси, сообщили корреспонденту БЕЛТА в УКГБ по Могилевской области.

Афганцы прибыли в Беларусь еще в начале мая. Размещались в одном из заброшенных домов на окраине города. Они планировали при помощи посредников попасть через границу с Польшей в страны Западной Европы, куда ранее, по их словам, нелегально мигрировали их родственники.

Сотрудники госбезопасности установили, что в попытке переправить нелегальных мигрантов принимал участие нигде не работающий 39-летний житель Могилева. По предварительной информации, он являлся членом преступной группировки по перевозке мигрантов из третьих стран. Сколько времени могилевчанин занимался подобной деятельностью, выяснит следствие.

«Проблема нелегальной миграции в страны Евросоюза в последнее время становится все более актуальной», — отметили в комитете. Граждане из стран с террористической активностью в расчете на высокое социальное пособие и мягкую миграционную политику активно изыскивают возможности для переезда в ЕС.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# СТАТУТ ВКЛ ВЯРНУЎСЯ Ў БЕЛАРУСЬ



У будынку Нацыянальнага гістарычнага музея ў Мінску адбылася цырымонія ўрачыстай перадачы арыгінальнага выдання Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года на старабеларускай мове музею гісторыі Магілёва.

Як паведамляе telegraf.by, у мерапрыемстве 7 чэрвеня прынялі ўдзел Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка, старшыня Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі “Беларусы Расіі” Валерый Казакоў, дырэктар Музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў, намеснік дырэктара Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь Ніна Калымага, а таксама прадстаўнікі вядучых беларускіх СМІ.

На цырымоніі выступіў дырэктар па карпаратыўных камунікацыях Альпари Валерый Тарасаў. “Для Альпары вялікі гонар аказаць дапамогу ў вяртанні значнай культурнай каштоўнасці ў Беларусь. Сёння мы з радасцю і гонарам перадаем гэты знак і найважнейшы культурны помнік музею гісторыі Магілёва”, – падкрэсліў Валерый Тарасаў.

Нагадаем, што Альпары адгукнулася на просьбу Нацыянальнага банка Беларусі аб аказанні дапамогі ў набыцці арыгінальнага Статута. Жыхары Беларусі таксама прынялі пасільны ўдзел у вяртанні рэліквіі, сабраўшы частку сродкаў за кошт ахвяраванняў.

Арыгінальны Статут уяўляе сабой вышэйшае дасягненне старабеларускай прававой думкі, якое аказала ўплыў на культурна-гістарычную і юрыдычную традыцыі краін Еўропы. Статут з’яўляецца не проста дакументам, а сімвалам і помнікам, які мае вялікае культурнае значэнне. Да сённяшняга дня захаваліся некалькі дзясяткаў асобнікаў Статута, аднак у Беларусі да апошняга часу не было ні аднаго з іх.

***І. Б.***

## Так и сказал. А. Г. Лукашенко

*«О такой оппозиции может мечтать любой глава государства, любого государства. Он просто мечтать будет, чтобы у него была такая оппозиция. Скажу Вам откровенно, что я её лелею, я её ценю, я её берегу. Пыль с неё сметаю, чтобы она сохранилась. И сохранилась только такой…»*

***БТ 01.03.2007 года***

## НА МАЛОЙ РАДЗІМЕ ЛУКАШЭНКІ ЗРАБІЛІ ЗОНУ ЦВЯРОЗАСЦІ

14 літраў чыстага спірту на чалавека! І гэта ўлічваючы непоўнагадовых жыхароў...

У Шклоўскім раёне, адкуль паходзіць кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка, мясцовыя ўлады вырашылі зрабіць зону цвярозасці, паведамляе газета “Магілёўскі Выбар”. Тут спажыванне алкаголю на кожнага жыхара сягае 14 літраў чыстага спірту на год. Чыноўнікаў занепакоіла нездаровая тэндэнцыя, і яны забаранілі продаж піва ды танных напояў.

Зрабіць зоны цвярозасці на Шклоўшчыне прапанаваў начальнік міліцыі па гэтым раёне Аляксандр Піменаў. Абмежаванні таксама ўведзеныя яшчэ ў пяці аграгарадках – мясцовым кавярням забаранілі прадаваць алкаголь з 21:00 перад святамі, на выходных і ў святочныя дні.

Шклоўскі раён лічыцца адным з найлепшых у вобласці паводле паказнікаў сацыяльна-эканамічнага развіцця. Разам з тым, на кожнага жыхара раёну, у тым ліку дзяцей, прыпадае па 14 літраў спажывання чыстага спірту на год. Пры паказніку 7 літраў паўстае пагроза дэградацыі грамадства і асобы. Больш як палова злачынстваў у раёне здзяйсняецца ў стане алкагольнага ап’янення.

Застаецца толькі нагадаць, што спажыванне алкаголю ў нашым Бялыніцкім раёне дасягае 18 літраў на кожнага жыхара раёна.

Куды ўжо болей...



ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Адрас рэдакцыі: Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 14.06. 2012 г. у 19-00.